# Мама Му чытае



Тэкст: Юя Вісландэр
Малюнкі: Свэн Нурдквіст

Тэкст: Юя Віcландэр    Малюнкі: Свэн Нурдквіст

# Мама Му чытае

Паводле ідэі Юі і Томаса Віcландэраў

*Пераклад са шведскай*






МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
2012

Стаяла восень. Усе каровы знаходзіліся ў кароўніку. Усе, апроч Мамы Му. Яна была ў бібліятэцы ў горадзе.

Малы слухаў казку.

Мама Му гартала лемантар.

– ММММ і УУУУУУ. Атрымаецца МУ,– сказала яна шэптам.

– Выдатна, Мама Му,– падбадзёрыла яе Ліна.– Цяпер ты можаш чытаць!



Ужо вечарэла, калі яны вярталіся дахаты.

Мама Му сядзела ў кузаве машыны. Вецер развейваў яе грыўку.

– Як незвычайна ехаць машынаю ў цемры! Сям-там бачны толькі маленькія агеньчыкі. І толькі ўявіце сабе, мне дазволілі ўзяць кнігі! «Мы радыя вітаць усіх у *біблітэцы*»,– сказалі мне там.



Крумкач сядзеў высока на дрэве каля сваёй хаткі. Ён быў усхваляваны. Ён сачыў праз бінокль за панадворкам гаспадара. Раптам ён заўважыў агеньчыкі фараў ягонай машыны. Крумкач бачыў, як жонка гаспадара адчыніла дзверы кароўніка і ўпусціла Маму Му ўсярэдзіну.

– Якая дзіўная карова,– прамармытаў Крумкач.– Цікава, дзе гэта  яна была?!



Наступным ранкам усе каровы, як заўсёды, пасвіліся на лузе.

Крумкач лётаў над імі і вышукваў Маму Му.

Ён ніяк не мог пазнаць яе сярод іншых кароў.

– Напэўна, яна зноў кудысьці з’ехала! – балбатаў Крумкач.– А можа, яна залезла на дрэва і вісіць там дагары нагамі?

Раптам Крумкач завіснуў у паветры.

– Дапамажыце! У мяне зараз адымуцца крылы!



Гэта была яна! Мама Му ляжала на зямлі пад дрэвам. Пярэднімі нагамі яна абдымала галаву.

Крумкач падышоў да яе і ўладкаваўся побач. Ён асцярожна дакрануўся да ейнага вуха.

– Мама Му… Ты раптам не сканала?



Мама Му пазяхнула.

– Ой, гэта ж я заснула,– сказала яна.

– Кар-р! А я падумаў, што ты звалілася з дрэва і разбілася! – закрычаў Крумкач.– Табе нельга караскацца па дрэвах, Мама Му!

– Але ж я і не лазіла па дрэвах. Я ляжала тут ды чытала,– адказала Мама Му.

– Чытала! Ушчыкніце мяне за пёркі! Ты ж не ўмееш чытаць. Што тут урэшце адбываецца?



Мама Му падняла з зямлі кнігу.

– Зірні, Крумкач! Піпі Доўгаяпанчоха гэткая моцная, што можа падняць свайго каня!

Крумкач уздыхнуў:

– Ты ж карова, Мама Му!

Мама Му зазірнула ў кнігу.

– Яна падняла каня, Крумкач. Толькі ўяві сабе, якая яна была моцная!

– Кар-р! Чытаць! Тут няма нічога незвычайнага,– прамовіў ён.– Кожны можа навучыцца чытаць!



– А ты ўмееш чытаць, Крумкач? – запыталася Мама Му.

Крумкач пазіраў на Маму Му.

– Гм-м-м… А што ТЫ рабіла ўначы, можна ў цябе запытацца??? Я заўважыў, як ты вярнулася дахаты на МАШЫНЕ!!!

Мама Му прыціснула да сябе сваю кнігу і заплюшчыла вочы.

– Я наведала *біблітэку*. Я чытала,– вымавіла яна, солодка ўздыхнуўшы.

Крумкач абурыўся:

– Каровы не ўмеюць чытаць кнігі. Каровы не БУДУЦЬ чытаць кнігі! Каровы будуць сядзець у кароўніку!!! Кар-р!



Крумкач плюхнуўся на зямлю.

– І чаму ты не можаш займацца больш звычайнымі справамі? – уздыхнуў ён.– Катацца на ровары ці караскацца па дрэвах ці яшчэ чым.

– А мне так спадабалася чытаць, Крумкач,– патлумачыла Мама Му.– Калі навучышся чытаць, можна даведацца пра што заўгодна!





– Ты сапраўды ўпэўнена, што ў кнігах напісана пра ЎСЁ на свеце? – не верыў Крумкач.

Мама Му крыху падумала:

– Я мяркую, што так.

– Ага, ну вось, напрыклад, ці напісана ў кнігах, чаму малако атрымліваецца белае, калі ты ясі зялёную траву! Напісана пра гэта ў кнігах?

– Му, ну, можа, не зусім гэта…



Крумкач пачаў хадзіць туды-сюды па траве.

– АГА! Значыць, не напісана! Чаму малако атрымліваецца белым? Чаму, чаму? ЧАМУ?

Ён нешта бубнеў сабе пад нос.

– Гм... Ты ясі зялёную траву… А ў тваім страўніку яна ператвараецца ў малако. І яно атрымліваецца белым…

Ён усё нешта мармытаў.

Раптам Крумкач стукнуў сябе па галаве.








– Я ведаю! – закрычаў ён.– Я напішу пра гэта кнігу! «Чаму малако белае? Кніга-даведнік пра малако». Аўтар – Крумкач!

Кніга стане вядомай! Дзеці нарэшце даведаюцца, чаму малако белае. Я атрымаю прэмію. Нобелеўскую прэмію! Кар!!

Каровы ўжо вярнуліся ў кароўнік.

На вячэру яны атрымалі цудоўнае летняе сена.

Раптам заляцеў Крумкач.

Ён цягнуў за сабою партфель.

– Прывітанне, Крумкач! Як справы з тваёй новай кнігай?



Крумкач адчыніў партфель і выцягнуў адтуль ліхтарык, секундамер, нататнік ды аловак.

– Ты ўмееш пісаць, Крумкач? – запыталася Мама Му.

– Сціхні, карова. Жуй сена ды глядзі!

Крумкач начапіў акуляры ды ўладкаваўся перад Мамай Му. Ён назіраў, як яна ела.

– Вось! Так. А зараз жуй!



Крумкач націснуў на секундамер. Мама Му перастала есці.

– Што? Што гэта ў цябе там?

– Гэта секундамер, Мама Му. Працягвай есці!

– Му, секундамер? А што гэта такое?

– Кар-р! Навошта табе гэта ведаць,– зашыпеў Крумкач,– працягвай!

– Му? – не пачула Мама Му.

– Усё! Восем секунд! – закрычаў Крумкач ды націснуў на кнопку.– Адчыні рот, карова!

– Навошта? – здзівілася Мама Му.



Крумкач зазірнуў у рот Маме Му.

Ён пасвяціў ліхтарыкам.

– Зараз паглядзім, зараз сена па дарозе ўніз. Ежа ўсё яшчэ зялёная, але неўзабаве яна ператворыцца ў белае малако… Гм-м... цікава! Нобелеўская прэмія! – мармытаў ён.– Я стану сусветна вядомым! А зараз глыні, Мама Му! ЗАРАЗ!

Крумкач зноў націснуў на секундамер. КЛІК.



ГЛЫЦЬ! ГЛЫЦЬ!
Крумкач кінуўся ўбок.
Мама Му зачыніла рот і зноў пачала жвакаць.
– УУУУУУУ, фeee! Што гэта быў за гук?! – закрычаў Крумкач.



– Гэта была ежа, якая паднялася ўгару. З майго іншага страўніка.

– Твайго іншага страўніка! Хіба ў цябе іх некалькі? – Крумкач вылупіўся на Маму Му.

– Му,– адказала яна.– Чатыры. А ў цябе колькі?

– Што? Скубаніце мяне за пёркі! Мае страўнікі!

Крумкач хуценька пазбіраў свае рэчы.

– Я паляцеў дахаты. Ка-а-р-р! Як жа я атрымаю Нобелеўскую прэмію, калі ў цябе столькі страўнікаў! Пакуль, Мама Му! У мяне больш няма часу займацца гэтай пісанінай.

І Крумкач знік у цемры.





Мама Му залезла на капу сена.

Яна ўладкавалася там, трымаючы кнігу пра Піпі.

– Эх, гэта так незвычайна – адпачываць на сваёй ежы ды чытаць! Цяпер я разумею, што зусім неабавязкова пісаць у кнігах пра ўсё на свеце.

*Малако ўсе дзеткі п'юць белае,*
*А я траву зялёную ем на абед.*
*І ніхто нічога пра гэта не ведае,*
*Гэта мой маленькі сакрэт.*

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**ВІСЛАНДЭР** Юя
**НУРДКВІСТ** Свэн

**МАМА МУ ЧЫТАЕ**

Паводле ідэі Юі і Томаса Вісландэраў

Рэдактар *Аксана Спрынчан*
Мастацкі рэдактар *Валянцін Макаранка*
Тэхнічны рэдактар *Вольга Серчанка*
Стылістычны рэдактар *Людміла Ганчарэнка*

Падпісана да друку 26.12.2011. Фармат $60 \times 90^1/_8$. Папера афсетная.
Гарнітура Таймс. Афсетны друк. Умоўн. друк. арк. 3,5.
Улік.-выд. арк. 3,430. Тыраж 2000 экз. Заказ 2714.

Выдавецкае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
ЛИ № 02330/0494049 ад 03.02.2009. Пр. Пераможцаў, 11, 220004, Мінск.
www.mastlit.by; e-mail: mail@mastlit.by

ААТ “Артыя Груп”, вул. Кастрычніцкая 19, 220030, г. Мінск, www.artia.by.
ЛП № 02330/0150047 ад 05.03.2008.

Крумкач пазіраў на Маму Му.
– Гм-м-м… А што ТЫ рабіла ўначы, можна ў цябе запытацца??? Я заўважыў, як ты вярнулася дахаты на МАШЫНЕ!!!
Мама Му прыціснула да сябе сваю кнігу і заплюшчыла вочы.
– Я наведала біблітэку. Я чытала,– вымавіла яна, соладка ўздыхнуўшы.
Крумкач абурыўся:
– Каровы не ўмеюць чытаць кнігі. Каровы не БУДУЦЬ чытаць кнігі! Каровы будуць сядзець у кароўніку!!! Кар!
Крумкач плюхнуўся на зямлю.
– І чаму ты не можаш займацца больш звычайнымі справамі? – уздыхнуў ён.– Катацца на ровары ці караскацца па дрэвах ці яшчэ чым.
– А мне так спадабалася чытаць, Крумкач,– патлумачыла Мама Му.– Калі навучышся чытаць, можна даведацца пра што заўгодна!

ISBN 978-985-02-1325-9

